# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

29 красавіка 1999 №23 кошт 1 літ


***За прабеглы месяц адбылося шмат, пераважна сумных, падзеяў у Беларусі дый у цэлым сьвеце. Нашая дэмакратычная апазыцыя ці то праз недахоп фінансаў, ці то зь іншых меркаваньняў, змагла вылучыць у кандыдаты на прэзыдэнта толькі двух асобаў: Зянона Пазьняка ды Міхаіла Чыгіра. Але Зянон Пазьняк (у выпадку, калі выбары ўсё ж адбудуцца) наўрад ці зможа прыехаць у Беларусь, бо ёсьць зьвесткі, што правячы рэжым пастанавіў фізычна зьнішчыць свайго галоўнага апанэнта. А Міхаіл Чыгір — арыштаваны паводле сфабрыкаванай на яго справы аб нібыта эканамічных злоўжываньнях, калі ён быў беларускім прэм'ер-міністрам у Лукашэнкаўскім урадзе.***

***Тым часам распачалася вайна на Балканах, якая выклікала нацыяналістычна-мілітарысцкую істэрыю ў Расеі дый у Менску. І праблема ў тым, што вельмі цяжка акрэсьліцца ў стаўленьні да балканскіх падзеяў: гінуць ні ў чым непавінныя мірныя сэрбы, гінуць ад натаўскіх бомбаў і ад рук сэрбскіх вайскоўцаў ні ў чым непавінныя альбанцы-касавары. Нам, беларусам, сярод якіх нямала праваслаўных, вельмі цяжка ня страціць пачуцьцё рэальнасьці ў дачыненьні да балканскага канфлікту. І тут, напэўна, вельмі істотна не забывацца на русыфікатарскую й асыміляцыйную палітыку таго самага «старэйшага брата», каторы сёньня раптам гэтак «возлюбил» і пачаў клапаціцца пра нацыянальную саматоеснасьць ды культуру далёкай ад Расеі праваслаўна-славянскай Сэрбіі... Што зь сябе ўяўляе гэтая «любоў» і «клопат» наш народ добра зьведаў на працягу больш двухсотгадовага расейскага панаваньня. Варта ўзгадаць і не такія далёкія часы, калі самалёты «дэмакратычнай» Расеі бамбілі маленькую Чачню. Дэманстрацыяў пратэсту ў Маскве ды іншых расейскіх гарадох тады чамусьці не заўважалася...***

***І яшчэ адна сумная вестка ўскалыхнула беларускую грамадзкасьць: заўчасная сьмерць Генадзя Карпенкі, які карыстаўся ў народзе вялікім аўтарытэтам, ведаў, чым і як ён жыве, шукаў шляхоў да выхаду з тупіковай эканамічнаай і духовай сытуацыі, у якой ён апынуўся. Шмат хто з нас спадзяваўся, што сьветлай памяці Генадзь Карпенка таксама будзе кандыдатам у прэзыдэнты.***

## 16 ТРАЎНЯ — ВЫБАРЫ ПРЭЗЫДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ!


Здымак Дзяніса Раманюка

### 5. Мы робім усё, каб выбары адбыліся

Ад самага нараджэньня Беларускай Народнай Рэспублікі ў беларускага народу былі неспрыяльныя для разьвіцьця ўмовы. Праўда, існавала БССР. Але гэта была не самастойная дзяржава, а нацыянальнае ўтварэньне ў складзе Савецкага Саюзу пад камандаваньнем бальшавіцкай партыі, а дакладней — пад камандаваньнем ейнага кіраўніцтва. Ужо ў трыццатыя гады беларускія кадры пачалі фізычна вынішчаць. Практычна амаль уся беларуская інтэлігенцыя больш высокага ўзроўню была зьліквідаваная ўжо ў 1937-38 гг. У БССР стараліся не гаварыць па-беларуску, бо гэта было небясьпечна: такіх людзей залічалі ў «нацдэмы», у ворагі бальшавікоў.

Пасьля Другой сусьветнай вайны ў Беларусі пачалі зачыняцца беларускія школы. Асабліва хутка гэта адбывалася ў 50-х гг., так, што ўжо ў 60-х у Менску не засталося ніводнай беларускай школы. Пасьля пачалі зьнікаць школы і ў іншых гарадах. Заставаліся школы ў вёсках, і тое не паўсюль.

Аднойчы кіраўнік СССР Хрушчоў, прыехаўшы ў Менск, заявіў: «Чем скорее вы перейдёте на русский язык, тем скорее мы построим коммунизм!» І беларускія партакраты заўзята пачалі выконваць гэты загад.

Адраджэньне Беларусі пачалося разам з распадам Савецкага Саюзу. У 1991 годзе адрадзілася Рэспубліка Беларусь. У першыя пасьля гэтага гады йшло адраджэньне, праўда, запаволенае, бо ва ўладзе заставалася старая партыйная намэнклятура, якая крыху толькі перафарбавалася.

Новы наступ на беларушчыну, спробы зьліквідаваць незалежнасьць Беларусі пачаліся пасьля таго, як да ўлады прыйшоў прэзыдэнт Лукашэнка. Гэтыя спробы працягваюцца й цяпер. Мы добра ведаем, што ў Маскве ўсё кіраўніцтва Расеі, і нават г. зв. дэмакраты, стаяць на тым, каб далучыць Беларусь да Расеі. Калі б не змаганьне беларускіх дэмакратычных сілаў, і перадусім — Беларускага Народнага Фронту, які стаіць на незалежніцкіх пазыцыях 11 гадоў, дык хіба лёс нашае Бацькаўшчыны быў бы ўжо вырашаны.

Сымбалем змаганьне за беларускую ідэю зьяўляецца для нас і Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, каторая знаходзіцца ў эміграцыі й якая не перадала сваіх паўнамоцтваў пяць гадоў таму, нягледзячы на тое, што Савет Міністраў РБ прасіў у яе перадаць дзяржаўныя функцыі, як гэта зрабілі экзыльныя ўрады Украіны, Польшчы, Літвы ды іншых краінаў. Таму Рада БНР па-ранейшаму застаецца сымбалем нашай незалежнасьці. Летась пачалася кампанія за сымбалічнае грамадзянства БНР. Акцыя гэта, сапраўды, сымбалічная, гэта маральны абавязак сьвядомых беларусаў, доказ таго, што мы ня хочам далучацца

Працяг на старонцы 4

■ *Прымаючы даверчыя граматы ад новага амбасадара Расеі, Лукашэнка выказаў спадзяваньні, што прадстаўнік Расеі будзе апошні на гэтай пасадзе перад маючым адбыцца зьліцьцём абедзьвюх дзяржаваў у адну.*

■ *28 сакавіка адбылося традыцыйнае сьвяткаваньне ўгодкаў БНР. Міліцыйныя ворганы таксама засталіся верныя сваёй традыцыі: многія ўдзельнікі акцыі былі зьбітыя, арыштаваныя ды асуджаныя да выплаты вялікіх штрафаў.*

■ *Лукашэнка заклікаў да пастаўкі зброі зь Беларусі ў Сэрбію. Праз два тыдні (9 красавіка) прэзыдэнт Сэрбіі Мілошавіч падаў афіцыйную заяву аб далучэньні да саюзу Расеі й Беларусі.*

■ *30 сакавіка арыштаваны кандыдат у Прэзыдэнты РБ Міхаіл Чыгір. Яго абвінавачваюць у злоўжываньні службовым становішчам й крадзяжы ў асабліва буйных памерах.*

■ *Тым часам 31 сакавіка прадстаўнікам Чыгіра й Зянона Пазьняка былі ўручаныя пасьведчаньні кандыдатаў на пасаду Прэзыдэнта.*

■ *ОБСЕ расцаніла выбары ў мясцовыя саветы РБ як недэмакратычныя. Апазыцыйныя партыі байкатавалі гэтыя выбары.*

■ *6 красавіка пасьля цяжкай хваробы й апэрацыі памёр Генадзь Карпенка, былы мэр Маладэчна, дэпутат Вярхоўнага Савету 14-га скліканьня,адзін зь лідэраў апазыцыі.*

■ *6 красавіка на Віленскай тэлевізіі было паказанае інтэрвію з Лукашэнкам, у якім ён акрэсьліў апазыцыйных дэпутатаў ВС як «бандформирование».*

■ *У ноч з 7 на 8 красавіка са сваёй кватэры бясьследна зьнікла Тамара Віньнікава. З пачатку 1997 году былая кіраўнічка Нацыянальнага Банку РБ знаходзілася ў турме па абвінавачаньні ў крадзяжы дзяржаўных сродкаў. У сувязі зь цяжкім захворваньнем яна была пераведзеная пад дамовы арышт.*

■ *Балгарыя абвесьціла пра ўвядзеньне візавага рэжыму для грамадзянаў РБ. Затое для грамадзянаў Літвы скасавала візы Гішпанія.*

■ *У Літве раскрытае забойства ксяндза Рычардаса Мікутавічуса, вядомага калекцыянэра твораў мастацтва. Злачынцы былі дэмаскаваныя пры спробе продажу ордэну Гедыміна ІІІ ступені, якім быў узнагароджаны нябошчык.*

■ *Урад Літвы пастанавіў адмовіцца ад адумысловых «дзяржаўных нумароў» для сваіх шыкоўных аўто. Гэткім чынам высокія літоўскія чыноўнікі спадзяюцца, мусіць, стаць менш прыкметнымі сярод простых суграмадзянаў.*

■ *Міністэрства фінансаў Літвы пачало распаўсюджаньне г. зв. «ашчадных лістоў» паводле ўзору сумна вядомых савецкім грамадзянам «аблігацыяў». Літоўскае жыхарства спакушаюць вялікімі адсоткамі: ажно 10%! У народзе з гэтай нагоды гавораць, што, літоўскі літ, які на працягу шасьці гадоў быў намёртва «прывязаны» да даляра (нягледзячы на рост коштаў) — будзе, нарэшце, «адпушчаны на волю».*

Працяг на старонцы 7

## БЕЛАРУСЬ НАПЯРЭДАДНІ ПРЭЗЫДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ



## Віншуем

з 10-гадовым юбілеем супрацоўнікаў радыёперадачы **«Беларускае слова на хвалях Літоўскага радыё»**, ейнага рэдактара спн. Галіну Войцік і вядучых Іну Аляшкевіч ды Эдыту Шукевіч!

Гэтая цікавая, культурніцкага напрамку, 30-хвілёвая перадача выходзіць цяпер штосерады а **18.00 гадз**. на II праграме Літоўскага радыё. Апошнім часам да яе дадаецца (пакуль нерэгулярна) 10-хвілёвая беларуская перадача на літоўскай мове.

## «Віленскі сшытак»

беларуская праграма на Нацыянальнай літоўскай тэлевізіі, будзе цяпер выходзіць штосерады а **16.40**. Нягледзячы на тое, што гэтак часта мяняецца эфірны час праграмы, рэдакцыя «Віленскага сшытку» спадзяецца на вернасьць сваіх гледачоў. Сувязь з рэдакцыяй трымайце па тэлефоне: *23 37 99*.

## Вялікі канцэрт

беларускай песьні адбыўся 21 сакавіка ў палацы прафсаюзаў. На запросіны Беларускай амбасады й ЗБГА канцэрт даваў знакаміты на ўвесь сьвет Беларускі акадэмічны народны хор імя Цітовіча. Адну зь песьняў — славуты «Нёман» — хор выканаў разам з салістам зь Вільні, заслужаным артыстам Літвы Лявонам Мурашкам.

**Сяржук Вітушка**

## Чарговае сьвяткаваньне

81-ых угодкаў стварэньня БНР прайшло 28 сакавіка ў Доме настаўніка. Арганізатарам й вядучым сьвята было ЗБГА на чале з прэзыдэнтам Лявонам Мурашкам. Наогул, трэба адзначыць вялікую ролю Згуртаваньня ў правядзеньні сёлетняга сьвята. Менавіта яно арэндавала залю, арганізавала канцэрт і сьвяточную пачостку ў Доме нацыянальных суполак.

З выступоўцаў асабліва яскрава прамаўлялі вядомы гісторык зь Менску А. Грыцкевіч (частка ягонай прамовы, датычная выбараў, зьмешчаная ў газэце) ды старшыня ТБК Х. Нюнька, які, у прыватнасьці, сказаў: «Па-сутнасьці сёньня ў Беларусі йснуе ўнутраная акупацыя, калі на кіруючых пасадах беларусы складаюць усяго 8%, супраць беларускіх патрыётаў праводзяцца рэпрэсіі з парушэньнем элементарных правоў чалавека. Вынікам праводжанага Лукашэнкам курсу ёсьць палітычная ізаляцыя рэжыму цывілізаванымі краінамі сьвету й сацыяльна-эканамічны тупік. Літва мае свабодны бязьвізавы рэжым з бальшынёю эўрапэйскіх краінаў, у той час як кантакты зь Беларусьсю робіцца ўсё цяжэйшым. Праезд да Ашмянаў больш праблемны, чым да Парыжу ці Бэрліну... Сёньня, калі йснуе рэальная пагроза вяртаньня Беларусі ў ярмо імпэрыі й страты незалежнасьці, уцягваньня Беларусі ў рэгіянальныя канфлікты, спробы вяртаньня ў Беларусь ядзернай зброі, — беларуская літоўская дыяспара абавязкова павінная выказаць сваю пазыцыю й падтрымаць вызвольна-дэмакратычны рух на Бацькаўшчыне.»

На канцэрце з нагоды Дня волі выступілі хор клюбу «Сябрына», вучні Віленскай беларускай школы, хор «Сьвітанак» зь Вісагінасу, народная артыстка Беларусі Т. Мархель, віленскі мастак і паэт С. Зялёнка.

**А. М.**




## Беларускі касьцёл

у Вільні патроху адраджаецца. Летась падчас Велікоднага набажэнства ў Вастрабрамскай капліцы кс. Ян Шуткевіч першы раз зьвярнуўся да вернікаў на беларускай мове. Сёлетні Вялікдзень беларусы-каталікі сустракалі ўжо ў сваім касьцёле. Касьцёл цяпер стаіць у рыштаваньнях, пачалося добраўпарадкаваньне цьвінтару. У Вялікоднай казані айцец Ян выказаў пажаданьне, каб усе беларусы павярнуліся да Бога, каб «сонца свабоды й дэмакратыі хутчэй засьвяціла над Беларусьсю».

**Сяржук Вітушка**

## Вучні й настаўнікі са Швэцыі



наведалі 6 красавіка сваіх сяброў зь Беларускай школы імя Ф. Скарыны, з каторымі ўжо даўно перапісваліся й марылі пазнаёміцца бліжэй. Спачатку яны агледзелі школьныя кабінэты й бібліятэку, а потым сустрэча працягвалася ў актавай залі, дзе гасьцінна былі накрытыя сталы, гучала музыка, сьпяваліся песьні. Назаўтра госьці са Швэцыі разам з нашымі вучнямі й настаўнікамі наведалі Ігналінскую АЭС. Высьветлілася, што швэдзкую грамадзкасьць вельмі непакоіць стан літоўскай атамнай электрастанцыі й яна патрабуе ейнага закрыцьця. Аднак спэцыялісты, каторыя праводзілі экскурсію па залях АЭС, распавялі, што пасьля замены некатарай тэхнікі, пасьля эфэктоўнай дапамогі ў пытаньнях бясьпекі, якую першай аказала якраз Швэцыя, пасьля правядзеньня незалежнай экспэртызы, зробленая выснова, што станцыя працуе пасьпяхова й бясьпечна. Цяпер Ігналінская АЭС выпрацоўвае 85% усёй літоўскай электраэнэргіі, а на ёй працуе больш за 5 тыс. работнікаў. Адным словам, спэцыялісты-атамшчыкі даводзілі нам, што ўсе размовы аб закрыцьці Ігналінскай АЭС у сродках масавай інфармацыі безпадстаўныя.

Пасьля экскурсіі нашая грамадка пазнаёмілася з навакольлем, пабывалі на беразе самага вялікага ў Літве возера Друкшу плошчай 26 км. кв., вада якога ахалоджвае рэактары станцыі, прычым уся цалкам вада з возера праходзіць цераз станцыю ўсяго за адзін месяц! Увечары мы вярнуліся ў Вільню, атрымаўшы абгрунтаваныя адказы пра лёс Ігналінскай АЭС.

**Павал Саўчанка**

## Чарговы ўступны экзамен

у вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі праходзіў 8 красавіка ў Беларускай школе імя Ф. Скарыны. Ня толькі абітурыенты нашай школы, але й вучні-беларусы зь іншых літоўскіх школаў пажадалі вучыцца ў Менску, Гародні, Наваполацку. Беларусь загарантавала 6 месцаў у любых, апрача БДУ, беларускіх вузах.

**Павал Саўчанка**

## Стварае цяжкасьці

у выдачы ўязных візаў у РБ для актывістаў беларускіх грамадзкіх арганізацыяў Літвы новае кіраўніцтва беларускай амбасады і консульства. Калі пры былым амбасадары сп. Вайтовічы й былым консуле сп. Бабову йшлі насустрач й бесперашкодна выдавалі ўязныя візы, дык цяпер не дапамагаюць нават хадайніцтвы ад Таварыства «Радзіма», ня кажучы ўжо пра ТБМ ці ЗБС «Бацькаўшчына». Праўда, новы беларус-кі амбасадар сп. Гаркун на канцэрце ў палацы прафсаюзаў 21 сакавіка заявіў, што «для культуры межаў не йснуе». Будзем спадзявацца, што ад слоў вышэйназваныя ўстановы пяройдуць да справаў.

**Юры Гіль**

## Інтэрвію з амбасадарам РБ

у Літве сп. В. Гаркуном было апублікаванае ў газэце «Літоўскі кур'ер» (215/99) пад загалоўкам «Правоту Лукашенко подтверждает... НАТО». У прыватнасьці, у інтэрвію была закранутая тэма датычная беларускай дыяспары Літвы (пер. рэд. — А. М.):

*— Як складваюцца адносіны амбасады з прадстаўнікамі дыяспары?*

— Я лічу — цалкам нармалёва. Ачольвае яе паважаны чалавек, цудоўная асоба — Лявон Мурашка. Мы дапамагаем беларускім аб'яднаньням у арганізацыі паездак, канцэртаў, іншых мерапрыемстваў. Супольную мову знаходзім і гэта мяне задавальняе.

*— Але вядома, што сярод беларусаў Літвы ёсьць і ненавісьнікі цяперашняга палітычнага курсу Беларусі...*

— Калі на Ваш касьцюм паставіць чорную пляму, дык усе будуць бачыць яго, яно прывабіць увагу. Гэтак і ў дыяспары: часам прываблiваюць увагу скандалы, а ўсё добрае — непрыкметнае, таму што натуральнае. Арэол вакол адыёзных асобаў стварае той, хто плоціць за гэта.

*Прычыну свайго зьяўленьня ў Вільні сп. Гаркун растлумачыў так:*

— ...У 1944-ым стаў віцэ-прэм'ерам у пытаньнях аграпрамысловага комплексу. Летась захацелася паспрабаваць сябе на новым попрышчы. Папрасіў Прэзыдэнта пасласць мяне ў Літву. Ён задаволіў маю просьбу, за што я яму ўдзячны.

*Падрыхтаваў* **А. М.**

## 10-гадовы юбілей ТБК

рада Таварыства пастанавіла адзначыць урачыстым сходам і выданьнем брашуры, якая б асьвятляла шлях гэтае старэйшае беларускае арганізацыі ў Вільні. Усіх, хто мае цікавыя фатаздымкі, дакуманты, мэмуары, што да гісторыі ТБК, зьвяртайцеся па тэлефоне: 61 65 32, 72 55 95.

Рада Таварыства пастанавіла таксама рэгулярна праводзіць штомесячныя імпрэзы, прысьвечаныя беларускай культуры Віленшчыны, сустрэчам зь віднымі дзеячамі Літвы й Беларусі, каторыя будуць адбывацца а 16.00 кожную апошнюю нядзелю месяца ў залі па вул. Жыгіманту 12-3. Плянуецца паказ відэастужак з актуальным культурным і грамадзка-палітычным зьместам. Бліжэйшая імпрэза адбудуцца 27 траўня.

Запрашаем!

**Рада ТБК**

## Беларусаў не запрасілі

ў Вільню на адкрыцьцё экспазыцыі «Грунвальдзкая бітва». Экспазыцыя складаецца са славутай аднайменнай карціны Яна Матэйкі, прывезенай з Варшавы, а таксама з калекцыйі рыцарскай зброі ды вайсковых харугваў з музэяў Літвы. Разьмешчаная экспазыцыя ў Літоўскім музэі прыкладнога мастацтва. Адкрывалі выставу прэзыдэнт Літвы Адамкус і прэзыдэнт Польшчы Квасьнеўскі. Прэзыдэнт Беларусі таго дня езьдзіў ваяваць з НАТО ў Сэрбію. (Нагадаем, што калісьці палякі, беларусы й літоўцы разам на Грунвальдзкім полі перамаглі Крыжацкі ордэн, тагачасны аналяг сёньняшняга НАТО).

**Сяржук Вітушка**

## «Залаты кубак»

такую ганаровую ўзнагароду атрымаў наш зямляк, кіраўнік фірмы «Літпольаўта» Міхась Руневіч ад клюбу польскіх публіцыстаў і Вялікай капітулы ўзнагародаў «Палёнус». Узнагароду сп. Руневіч атрымаў за харытатыўную дзейнасьць: ён шчодра дапамагае віленскім школам, як польскім, гэтак і беларускай. «У мяне два крылы: беларускае й польскае. Абодва мне дарагія!» — гэта словы самога М. Руневіча.

**Сяржук Вітушка**

## Выдавецтвам «Рунь»

падрыхтаваная да друку кніга успамінаў, прозы, паэзіі аўстралійскага беларуса Сымона Шаўцова «Мая адысея». Анатацыя на кнігу будзе зьмешчаная ў наступным нумары нашае газэты пасьля ейнага выхаду ў сьвет. А цяпер у выдавецтве распачалася праца над абшырнай кнігай пра гісторыю Віленскай Беларускай Гімназіі, большую частку якой складуць успаміны, у тым ліку нідзе раней не публікаваныя. Успаміны плянуецца аздобіць рэдкімі фатаздымкамі, багатымі камэнтарыямі, хранaлёгіяй гімназіяльных падзеяў ды іншымі ўнікальнымі матэр'яламі й дакумантамі. Кніга павінная зацікавіць як шырокае кола чытачоў, гэтак і дасьледчыкаў гісторыі Заходняй Беларусі. Ласкава просім усіх (асабліва былых гімназістаў) дасылаць свае ўспаміны ды ўсё, што зьвязанае з нашай легендарнай навучальнай установай, на адрас: *Сяргей Вітушка, Kaminkielio 32-27, 2000 Vilnius, Lithuania.*

Кантактныя тэлефоны:
***(+370 2) 65 50 69, 42 38 02.***

**Сяргей Вітушка**

## Зьмястоўныя ўспаміны

пра дзейнасьць ВБГ й пра ейнага дырэктара М. Анцукевіча перадаў у рэдакцыю «Руні» былы вучань сп. Алег Мікалаевіч Анцукевіч. У сямейным архіве Алега Мікалаевіча захоўваецца гэтаксама аб'ёмісты (на 300 ст.) бацькаў рукапіс. На вялікі жаль, рукапіс гэты напісаны адумысловым «скорапісам», каторы цяжка расшыфраваць. Зьмяшчаем ніжэй фрагмэнт адной са старонак у спадзяваньні, што можа нашыя чыта-



чы парадзяць, хто б мог заняцца расшыфроўкай рукапісу М. Анцукевіча, дзе, напэўна, нямала цікавых зьвестак і пра ВБГ, і пра гісторыю беларускага руху ў Заходняй Беларусі.

**А. М.**

## Новая грамадзкая арганізацыя

**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя дзеля Беларусі»**

зарэгістраваная ў Вільні.

Сярод галоўных мэтаў Цэнтру — наладжваньне й умацаваньне літоўска-беларускіх кантактаў на самых розных узроўнях, падтрымка дэмакратычных працэсаў у Беларусі, разьвіцьцё музэйнай справы, пэрыядычнага друку, кнігадрукаваньня ды шмат што іншае. У новую арганізацыю ўвайшлі ўсе сябры рэдакцыі «Рунь».

**А. М.**









# ЛЯВОН ЛУЦКЕВІЧ ПРА АНТОНА ЛУЦКЕВІЧА

*Пачатак у N22*

Аднойчы бацька прынёс дамоў вялізны, цяжкі, двуручны меч. Гэтым мечам, распавёў ён нам зь Юркам, калісьці даўным-даўно віленскі кат адсякаў галовы асуджаным на сьмерць. Бацька прыдбаў меч для музею ў знанага антыквара Рапапорта, каторага багатая крама знаходзілася, здаецца, на Віленскай вуліцы. Гэты меч і сяньня экспануецца ў гісторыка-этнаграфічным музэі Літоўскай Рэспублікі ў Вільні.

Радасны гумор бацькі, выкліканы новым цэнным набыткам, перадаўся й нам, дзецям. Меч быў прынесены ў наш дзіцячы пакой. Ён быў парадкам заржавелы, брудны. Зараз зьявіліся анучы й бутэлька з нафтаю. (Гэта не было праблемаю, бо ў той час дзеля гатаваньня ежы шырака ўжывалі «прымусы», напоўненыя нафтаю, а таму ў кожнай гаспадыні на кухні нафта заўсёды была пад рукой). Мы ўсе ўтрох, бацька, Юрка й я, з энтузіязмам пачалі чысьціць і адмываць шырокае, вострае з абодвух краёў лязо меча. Па ўсёй ягонай паверхні былі выгравіраваныя рысункі, каторыя паступова рабіліся відочнымі, як мы яго ачышчалі ад іржы й бруду. Бацька з захапленьнем апавядаў нам усё, што ведаў пра гэты меч, цярпліва адказваў на ўсе нашыя пытаньні, каторых у дзяцей бязь ліку зьяўляецца пры кожнай нагодзе.

Бацька неяк заўсёды ўмеў выклікаць у нас зацікаўленьне тымі справамі, якія яго самога хвалявалі. Гэта мы адчувалі ад самага маленства. Хіба таму ён патрапіў гэтак прыблізіць нас да сябе і ўплываць на нашае ўзгадаваньне, больш чымся хто іншы з нашага асяродзьдзя?

* * *

Імкнучыся сягоньня ўспомніць усё тое, што я з часоў свайго самага ранняга дзяцінства ведаў пра бацьку, пра ягоныя заняткі, урэшце, пра тое, што аб ім казалі людзі з найбліжэйшага кола, — даводзіцца вельмі старанна аддзяляць у памяці тое, што я тады сапраўды ведаў, што запомнілася, ад таго, што стала вядома пазьней з самых розных (і часта супярэчлівых) крыніцаў. Дваццатыя гады, а гэта якраз гады майго ранняга дзяцінства (у 1930 годзе мне мінула ўсяго



Зьлева направа: Зоф'я, Антон, Лявон і Юрка Луцкевічы. 1925 г.



Вуліца Вялікая. Старая паштоўка. 20-ыя гг.

8 гадоў), былі насычаныя многімі цікавымі падзеямі зьвязанымі з беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам у Вільні. Зразумела, што ў беларускіх справах я тады не разьбіраўся, падзеі тыя разгортваліся побач са мной, адгукаючыся далёкім рэхам, якое ўсё ж нейкім чынам адбівалася на маёй сьвядомасьці.

Дзякуючы бацьку й ягонаму акружэньню, нацыянальная сьвядомасьць прыйшла рана. Я ведаў, што я ёсьць беларус. Антон Луцкевіч з намі, хлопцамі, гаварыў выключна па-беларуску. Праўда, маці ды ейнае асяродзьдзе ў асноўным карысталіся расейскай мовай, увайшоўшай у быт матчынай сям'і яшчэ з «царскіх» часоў. З мамай мы таксама размаўлялі па-расейску. А нашыя нянькі гаварылі з намі на віленскім «польскім» дыялекце, хаця, вядома, былі ня полькамі, а «тутэйшымі», з навакольных вёсак ці віленскіх прыгарадаў, якіх польскасьць утрымлівалася за кошт каталіцкай веры ды замацоўвалася дзяржаўнаю ўладаю. Дык і польская моўная стыхія зь дзяцінства не была нам чужая. Зь літоўскай жа моваю мы тады не былі яшчэ знаёмыя. На шматнацыянальным абліччы міжваеннай Вільні вельмі мала заўважаўся літоўскі ўплыў, як і татарскі ці то караімскі. Хаця бацька нарадзіўся ў Шаўлях, але хіба літоўскай мовай не валодаў, а калі й валодаў, дык слаба, бо з Шаўляў дзяды мае выехалі, калі бацька быў малы. Але два літоўскія словы памятаю зь дзяцінства: калі Юрка нешта занадта дурэў, бацька называў яго «Юргісдурняліс».

* * *

Гэтыя нататкі я распачаў пісаць недзе ў пачатку 80-х. Затым быў доўгі перапынак. Далейшыя старонкі былі напісаныя ў канцы 80-х, ці пачатку 90-х гадоў. Што ж падштурхнула мяне вярнуцца да маіх занатовак пра бацьку ізноў? Ня ведаю. Мо тое, што два тыдні назад адыйшоў назаўсёды мой брат Юрка, пражыўшы на гэтым сьвеце 72 гады. Гэтая сумная падзея яшчэ раз нагадала мне, што жыцьцё маё ў асноўным ужо прайшло. Каб дажыць да сённяшняга дня спатрэбілася звыш сямі дзесяцігодзьдзяў. А колькі ж трэба, каб апісаць гэтае жыцьцё?

Зрэшты, гаворка йдзе не пра маё ўласнае жыцьцё, а пра тое, каб неяк замацаваць успаміны пра бацьку. Гэта патрабуе нейкага высілку, каторы ці будзе некалі некім выкарыстаны — невядома. Мой брат Юрка схільнасьці да такой справы ня меў...

Узнавіць сёньня кроніку далёкіх дзён немагчыма, дый гэта й непатрэбна. Хочацца згадаць тыя фрагмэнты, якія найбольш яскрава спалучаюцца з памяцьцю пра бацьку.

Мы з братам былі дзецьмі гораду — нашае маленства пераважна праходзіла сярод муроў, грукату фурманак, пылу й мітусьні, характэрных для мястовай рэчаіснасьці. І хаця Вільня нашага дзяцінства ня тая, што сёньня, ды ўсё ж бацькі імкнуліся ўлетку выехаць зь дзецьмі на прыроду, далей ад гарадзкога тлуму. На лецішчы ня трэба было ехаць далёка: да Вільні, куды не паедзеш, прылягалі цудоўныя ваколіцы. Мы кожнага году стараліся выяжджаць у іншую мясцовасьць.

Такім чынам пэрыяды дзіцячых гадоў замацаваліся ў маёй памяці менавіта летнімі выездамі з гораду, калі ўражаньні былі найярчэйшыя. Ці ня першы такі выезд, які захаваўся ў памяці, быў улетку 1925 году, калі не памыляюся — у Новую Вялейку. Жылі недалёка ад рэчкі ў драўляным доме на каменным падмурку. Памятаю даволі высокі ганак, колькі прыступак да яго, па якіх я любіў скакаць. У сьпякотныя дні хадзілі на рэчку, плёскаліся каля берагу. Ці то з аповядаў дарослых, ці мо сам я быў сьведкам таго, як Юрка аднойчы трапіў на крыху глыбейшае мейсца й пачаў тануць. Яго зараз і выцягнулі, але ж падзея гэтая трывала ўпісалася ў сямейную кроніку таго лета.

Са мною ж здарылася іншая прыгода. Ня ведаю, ці то ў рэчцы Вялейцы вадзіліся тады ракі, ці трапілі яны да нас аднекуль зь іншага мейсца, але апынуліся на нашай кухні ў вялікай місе з вадой. Ракі краталіся ў вадзе, а я праз цікавасьць засунуў у місу палец і адзін ракнебарак схапіў палец у сваю кляшню. Колькі было крыку й плачу!

Бацька ўлетку бываў з намі часьцей, бо не было заняткаў у гімназіі. Праўда, заставалася яшчэ праца ў музэі ды ўсялякія грамадзкія абавязкі. Пры кожнай нагодзе ён стараўся ўзяць нас абодвух і пайсьці на шпацыр. Зь ім нам было дужа цікава, ён заўсёды нешта нам апавядаў, паказваў, тлумачыў, пашыраючы наш кругагляд. З маленства прывучаў зьвяртаць увагу на навакольны сьвет: расьліны, птушкі, кузуркі, знойдзены ў полі кавалак крэменю, каменьчык з акамянеласьцямі, на каторым прасочваліся выявы лісточкаў з дагістарычнага часу, курган сярод лесу, — усё магло быць тэмаю папулярнага выкладу з прыродазнаўства, геалёгіі ці археалёгіі. Заўсёды атрымоўвалася цікавая гутарка без павучальнага тону, якім гэтак часта злоўжываюць прафэсыйныя пэдагогі...*

**Лявон Луцкевіч**

* На гэтым успаміны абрываюцца.

# БЕЛАРУСЬ НАПЯРЭДАДНІ

*Працяг на старонцы 1*

да Расеі.

У апошнія месяцы пачалася новая кампанія — падрыхтоўка да выбараў прэзыдэнта РБ, якая йдзе, нягледзячы на перашкоды ўладаў. Тыя, хто ў гэтым удзельнічаюць, ужо не аднаго разу пабывалі ў КДБ, пракуратуры, а не дык і за кратамі. Мяне самога, як сябра гарадзкой менскай выбарчай камісіі, выклікалі ў пракуратуру. Наступным хіба будзе таксама сябра гэтай камісіі, народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін. Тым ня менш мы не баімся, мы змагаемся.

31 красавіка адбылася ўрачыстая рэгістрацыя двух кандыдатаў у прэзыдэнты: былога прэм'ер-міністра пры Лукашэнку Чыгіра, які цяпер заняў незалежніцкія пазіцыі (ён прыехаў з Масквы, працаваў там у міжнароднай банкаўскай сістэме) і кандыдат ад БНФ Зянон Пазьняк. Адзін і другі кандыдаты набралі неабходную колькасьць галасоў (трэба набраць больш за 100 тыс. галасоў на вылучэньне).

Я думаю, што Зянон Пазьняк павінен прыехаць у Менск пры ўмове, што яму будзе гарантаваная недатыкальнасьць, забясьпечаная ня столькі беларускімі ўладамі, колькі міжнароднай супольнасьцю, бо, наколькі нам вядома, Лукашэнка яшчэ ў 1998 годзе загадаў фізычна зьнішчыць свайго галоўнага апанэнта, назваўшы гэта словам «нейтралізаваць». А ехаць, каб забілі, нікому ня трэба. Хоць, безумоўна, ягоная прысутнасьць у Беларусі была б на карысьць справе незалежнасьці.

Мы ня ведаем, што будуць рабіць улады, каб не дапусьціць выбараў прэзыдэнта. Але мы робім і будзем рабіць усё, каб гэтыя выбары адбыліся. Яны яшчэ раз падкрэсьляць, што Беларусь незалежная, што яна прытрымліваецца Канстытуцыі 1994 году, а ня той, якую накінуў Лукашэнка. Выбары падцьвердзяць, што з 21 ліпеня, калі заканчыцца тэрмін прэзыдэнцтва Лукашэнкі, гэты чалавек атрымае прыстаўку «экс» да слова «прэзыдэнт» у вачах беларусаў і ўсёй міжнароднай супольнасьці. І мы спадзяемся, што дыктатура Лукашэнкі, маскоўскага стаўленьніка, скончыцца хутка, бо ўсё больш і больш людзей далучаецца да ідэі незалежнасьці, нават тыя, хто яшчэ некалькі гадоў таму супрацоўнічаў з Лукашэнкам, хто быў у ягонай адміністрацыі.

*Доктар гіст. навук*
**Анатоль Грыцкевіч**

## 6. Беларуская нацыянальная ідэя

### *як яе бачыць Аб'яднаная грамадзянская партыя*

Гісторыя дала беларусам шанец стварыць незалежную дэмакратычную прававую краіну. Сёньня для грамадзянаў гэтай краіны няма большай каштоўнасьці, чым іхні супольны дом пад назвай Рэспубліка Беларусь. У замацаваньні поўнага сувэрэнітэту нашага народу над сваім лёсам, у адраджэньні ягонай духоўнасьці й разьвіцьці нацыянальнай культуры, у фармаваньні заможнага й дэмакратычнага грамадзтва, найвышэйшай мэтаю якога было б забясьпечаньне правоў і свабодаў усіх грамадзянаў, а таксама іхняга годнага ўзроўню жыцьця, — і складаецца, паводле нашага глыбокага перакананьня, сутнасьць Беларускай нацыянальнай ідэі!

Трагедыя ў тым, што сёньня беларускае грамадзтва аказалася нязьдольным выказваць сваю волю. У выніку дзяржаўнага перавароту 24 лістапада 1996 году ў краіне ўсталявалася прэзыдэнцкая дыктатура й лёс дзесяцімільённага народу вызначае дыктатар. Падпісаныя ў Маскве пагадненьні аб стварэньні беларуска-расейскай «саюзнай дзяржавы» сталіся пачаткам зьліквідаваньня сувэрэнітэту Беларусі. Лукашэнка дзеля задавальненьня собскіх інтарэсаў ды палітычных амбіцыяў гатовы ахвяраваць лёсам цэлага народу.

Расейскае кіраўніцтва цудоўна ведаючы пра становішча з дэмакратыяй у Беларусі, тым ня менш імкнецца выкарыстаць сытуацыю й фактычна інкарпараваць суседнюю краіну. Гэта нельга акрэсьліць інакш, як рэанімацыю агрэсыўнай імпэрскай палітыкі.

Канкрэтныя палажэньні беларускай нацыянальнай ідэі абвешчаныя ў першых двух разьдзелах Канстытуцыі краіны:

**— дэмакратычныя формы кіраваньня, заснаваная на прынцыпе ўлады закону, абароны правоў чалавека й асноўных свабодаў;**

**— ператварэньне Беларусі ў нэўтральную дзяржаву, захаваньне бязьядзернага статусу краіны;**

**— разьдзяленьне й самастойнасьць заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады;**

**— Разьвіцьцё і ўмацаваньне плюралістычнай парляманцкай дэмакратыі;**

**— недапушчальнасьць манаполіі на СМІ;**

**— гарантыя свабоды сходаў, мітынгаў, шэсьцяў і пікетаў;**

**— свабоднае аб'яднаньне грамадзянаў у палітычныя партыі й грамадзкія аб'яднаньні;**

**— Роўны правы й роўныя ўмовы для разьвіцьця ўсіх формаў уласнасьці.**

Нават просты пералік вышэйпададзеных канстытуцыйных палажэньняў паказвае, як далёка мы стаім ад рэалізацыі нацыянальнай ідэі. Сацыялягічныя апытаньні сьведчаць пра зародкавы стан нашага грамадзтва. Нармалёвае грамадзтва грунтуецца на дзейнасьці разнастайных палітычных і грамадзкіх інстытутаў, перадусім, палітычных партыяў і грамадзкіх аб'яднаньняў. Аднак у Беларусі прэзыдэнцкая «вэртыкаль» робіць усё магчымае, каб ня даць беларускаму народу структуравацца на глебе інстытутаў, якія адлюстроўваюць інтарэсы й патрэбы тых ці іншых групаў беларускага насельніцтва, падтрымлівае ілюзорныя надзеі на дармавізну ды ўтрыманства, заахвочвае грамадзянскую й палітычную пасыўнасьць. Праз манаполію на тэлебачаньне, радыё, масавыя дзяржаўныя газэты насаджаюцца міты, нібыта ў беларускага народу ёсьць толькі адзін годны кіраўнік — Лукашэнка, што абраны ім палітычны й эканамічны курс ёсьць адзіна правідловы, а заробкі й пэнсіі нізкія не праз недасьведчанасьць і няўмельства кіраўніцтва краіны, а з прычыны інтрыгаў унутраных і вонкавых ворагаў, якіх прэзыдэнт пастаянна выкрывае.

Паводле вядомых суб'ектыўных і аб'ектыўных фактараў наша краіна ўсё яшчэ стаіць перад гістарычнай дылемай: Усход — Захад. Схематычна гэта можна акрэсьліць як выбар паміж эўрапэйскімі й азіяцкімі сацыяльнымі сыстэмамі. Азіяцкі спосаб вытворчасьці заснаваны на дамінаваньні адміністратыўнай улады й ейнай неаддзельнасьці ад уласнасьці, на эканамічным і палітычным панаваньні бюракратыі. Менавіта ўлада тут галоўная.

Галоўная прыкмета эўрапэйскай сыстэмы — правы чалавека, свабодны рынак, прымат грамадзтва над дзяржавай, сьвятое права ўласнасьці. Ніякія навальніцы ў выглядзе «марксізма», «камунізма», «фашызма» ня здолелі разбурыць карані эўрапэйскай цывілізацыі, бо менавіта яна аказалася найбольш эфэктоўнай у галіне забясьпечаньня насельніцтва матар'яльным багацьцем і свабодамі. Незалежная Беларусь можа й павінная стварыць у сябе эўрапэйскае грамадзтва...

Лукашэнкаўскі курс на аб'яднаньне з Расей —контрапрадуктыўны. Расея сёньня знаходзіцца на ўзбочыне цывілізацыі. Без эканамічнай дапамогі Захаду ейная эканоміка асуджаная на дэградацыю. Гісторыя апошніх гадоў сьведчыць, што расейская эліта ня ў стане адмовіцца ад свайго імпэрскага мысьленьня, ад тэзісу пра першапачатковую варожасьць заходняй цывілізацыі ў дачыненьні да праваслаўна-славянскай.

Мы — эўрапэйцы. Нашая будучыня — не ў ператварэньні Бацькаўшчыны ў заходні фарпост зьнішчэлай алігархічнай Расеі, якую разьдзіраюць унутраныя супярэчнасьці, а ў самастойным разьвіцьці, у паступовай інтэграцыі ў эўрапэйскую супольнасьць, пры безумоўным захаваньні, на ўмовах свабоднага рынкавага гандлю, эканамічных адносінаў з Расеяй.

Рэалізацыя нацыянальнай ідэі мае на ўвазе:

**— дзяржаўную падтрымку нацыянальнай культуры, узнаўленьне нацыянальнай сымболікі, вяртаньня беларускай мове статусу дзяржаўнай;**

**— максымальная дэцэнтралізацыя ўлады, заканадаўчае замацаваньне мясцовай аўтаноміі;**

**— надацьцё апазыцыі статусу, які дазволіць ёй граць адказную й канструктыўную ролю;**

**— ачышчэньне ўлады ад карупцыянэраў і правядзеньне адкрытай, маральнай, па-сапраўднаму нацыянальнай унутранай і вонкавай палітыкі;**

**— стварэньне ўмоваў для годнага жыцьця нашых суграмадзянаў праз сацыяльна-арыентаваную рынкавую эканоміку.**

Сёньня галоўнаю перашкодаю для рэалізацыі нацыянальнай ідэі зьяўляецца аўтарытарны рэжым Лукашэнкі. Рэжым гэты абапіраецца на шматлікія сілавыя структуры, а таксама на тую частку нашага насельніцтва, каторая ўсё яшчэ настальгуе аб недалёкім савецкім мінулым. Узьнікла таксама вельмі дэмаралізаваная праслойка адданых рэжуму людзей, фізычнае выжываньне якіх залежыць ад злой ці добрай волі іхняга гаспадара.

І ўсё ж у Лукашэнкаўскага рэжыму няма гістарычнай пэрспэктывы.

Праўда, і ў дэмакратычнай апазыцыі, з прычыны антыканстытуцыйнага зьліквідаваньня Вярхоўнага Савету ды ўвядзеньнем дэ-факто аўтарытарнай Канстытуцыі, няма іншых шляхоў адхіленьня ад улады гэтага рэжыму, апрача як шляху дэмакратызацыі грамадзкага жыцьця й перамогі на выбарах. Для краіны зь няўстойлівай дэмакратыяй, якой і зьяўляецца РБ, асабліва значэньне мае строгае заканадаўчае забясьпячэньне выбарчых кампаніяў, якое максымальна абмяжоўвае непадкантрольны ўплыў «партыі ўлады» на вынікі выбараў, іхнюю фальсыфікацыю. Свабодныя, справядлівыя й роўныя выбары маюць на ўвазе шырокі доступ усіх палітычных сілаў да дзяржаўных СМІ, фарміраваньне цэнтральнай, тэрытарыяльных, акруговых і участковых камісіяў на парытэтных пачатках усімі палітычнымі сіламі, свабодная рэалізацыя канстытуцыйнага права кожнага грамадзяніна выбіраць і быць абраным, арганізацыя грамадзкага кантролю за выбарамі, уключэньне панамоцных назіральнікаў у выніковыя пратаколы падліку галасоў і выдачу ім копіяў гэтых пратаколаў, максымальнае абмежаваньне датэрміновага галасаваньня й галасаваньня з дапамогай пераносных вурнаў і г. д.

Сёньняшняя Беларусь не ізаляваная жалезным занавесам ад цывілізаванага сьвету. Улада Лукашэнкі пакуль яшчэ не прыняла артадаксальных дыктатарскіх формаў. Элемэнты дэмакратыі й інфармацыйнай свабоды, хоць і ў вельмі абмежаваных памерах, усё яшчэ захаваліся. Прасьвятленьню народу спрыяюць і вынікі дзейнасьці Лукашэнкі: падзеньне узроўню жыцьця, небывалы рост цэнаў, абясцэненьне рубля й грашовых укладаў. У гэтых умовах ягоны электарат няўмольна скарачаецца. Таму я не падзяляю пэсымізму той часткі апазыцыі, якая знаходзіцца ў палоне прапаганды аб усенароднай падтрымкі клясычнага папуліста Лукашэнкі, каторы не вызначаецца ані багатым інтэлектам, ані адукаванасьцю, ані культурай, — пра ягоную нібыта непераможнасьць на свабодных выбарах. Час працуе супраць рэжыму. Ён дапускае ўсё больш буйных палітычных і эканамічных памылак. Знаходзіцца ў глыбокай унутранай і міжнароднай ізаляцыі, траціць падтрымку ня толькі сярод інтэлігенцыі, чыноўніцтва, прадпрыймальнікаў, моладзі, — але й сярод вэтэранаў, сялянаў. Мне здаецца безпадстаўным і нават шкодным тэзіс пра сумную ўнікальнасьць нашага народу й сытуацыі ў Беларусі: пра нібыта адсутнасьць у нашага «замбіраванага» народу здаровага сэнсу, пра ягоную нязьдольнасьць падняцца над сваімі памылковымі поглядамі й гатоўнасьць бясконца падтрымліваць толькі такіх харызматычных папулістаў, як Лукашэнка.

Адсюль вынікае, што галоўнай задачай усіх апазыцыйных цяперашняму таталітарнаму рыжыму сілаў павінна стацца:

**— мабілізацыя на вырашэньне дэмакратызацыі краіны;**

**— узнаўленьне асноўных канстытуцыйных правоў і свабодаў грамадзянаў, палітычных партыяў і грамадзкіх аб'яднаньняў;**

**— стварэньне ў краіне умоваў для правядзеньня свабодных дэмакратычных выбараў ва ўсе легальныя органы ўлады.**

Тут мы цалкам падтрымліваем палітычную акцыю Вярхоўнага Савету, які прызначыў на 16 траўня выбары новага Прэзыдэнта краіны... Відавочна, што правядзеньне гэтай акцыі здольнае ўзмацніць палітычную актыўнасьць насельніцтва, падняць яго на барацьбу за аднаўленьне сваіх неад'емных правоў і свабодаў. А ў выпадку супрацьдзеяньня рэжыму, ён у вачох як беларускай, гэтак і міжнароднай супольнасьці ператворыцца ў дэюрэ не легітымны...

Для Лукашэнкі саюз з Расеяй — гэта апошняя спроба ўтрымацца пры ўладзе й пазьбегнуць кары за зробленае, пра што мы павінныя паслаць дакладны, моцны й выразны імпульс Маскве, Вашынгтону ды Эўропе...

Ва ўмовах дыктатуры ў апазыцыі няма магчымасьці весьці дыялёг з уласным народам. У гэтых умовах выбары... даюць дэмакратам унікальную магчымасьць легальнага доступу да электарата й, што яшчэ важней, доступу самога электарату да палітычнага працэсу, да зьдзяйсьненьня сваіх правоў на свабоду выказваньня меркаваньняў і перакананьняў, да свабоды сходаў і мітынгаў. Па дадзеным НИСЭПИ, пачуцьцё ўціску, ізаляванасьці ад палітычнага працэсу ўласцівыя сёньня ня толькі апазыцыі, але й шырокаму колу грамадзтва. Гэтак 76,4% апытаных лічаць, што ў краіне не захоўваецца права на свабоду меркаваньняў, перакананьняў і іхняга выказваньня, 68,2% — на свабоду сходаў, мітынгаў і шэсьцяў, 58,4% — права выбіраць і быць абраным у органы ўлады. Таму ня выкарыстаць выбары як магчымасьць доступу апазыцыі да грамадзтва, а грамадзтва да палітычнага працэсу — было б ня толькі палітычнай памылкай, але й страчаным шанцам для ўсіх прыхільнікаў нацыянальнай ідэі...

*Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі*
**Станіслаў Багданкевіч**

# ПРЭЗЫДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ

## 7. Вы кажаце, што я распраўляюся з апазыцыяй...

*А што думае пра выбары сам Аляксандар Рыгоравіч? Вось урывак зь інтэрвію, каторае ён даў напачатку кастрычніка ў сваім прэзыдэнцкім палацы дырэктару літоўскага тэлевізыйнага канала TV-6 Вітаўтасу Квяткаўскасу (пер. рэд. — А. М.).*

**— Спадар прэзыдэнт, мне вядома, што за Вашыя папраўкі ў Канстытуцыі прагаласавала 70,5% ад усіх выбаршчыкаў. Апазыцыя, каторая не прызнае рэфэрэндум, арганізоўвае сёлета прэзыдэнцкія выбары. Як Вы ставіцеся да апазыцыі ў гэтай сытуацыі? Я чытаў і ў літоўскай, і ў беларускай прэсе, што з апазыцыяй Вы моцна распраўляецеся й жорстка абыходзіцеся...**

— Скажыце, а як у Літве распраўляюцца з парушальнікамі закону? Знайдзіце хоць адзін факт, дзе я зь імі не па закону. Хоць Вы мне гэта кажыце, але ў нас ёсьць праваахоўчыя ворганы, і я не магу гэтага ўсяго сабе прысвоіць. Але я ў курсе справы, у тых мерапрыемствах, каторыя праводзяцца. Я Вам шчыра пра гэта кажу, што знайдзіце хоць адзін факт, дзе нашыя праваахоўчыя ворганы дзейнічалі незаконна. Вы знойдзеце, але толькі тое, што мы надта мякка ставімся да іх за парушэньне закону. (Законы, зразумела, стварыў сам Аляксандар Рыгоравіч — заўв. рэд.).

Каму патрэбныя прэзыдэнцкія выбары? Патрэбныя людзям «праваравальшымся». Гэта пачалося тады, вось гэтая акцыя, нават Захад яе баіцца... Яна ж ні да чога не прывядзе. Яны ж патрабуюць ад Захаду падтрымкі, нашыя «кандыдаты» гэтак званыя ў прэзыдэнты незаконных выбараў, а Захад ня можа ў гэта ўвязацца, бо адсутнасьць усякай легітымнасьці.

Вазьміце многія прозьвішчы, якія сёньня гучаць і вядомыя. Гэта ж яны ўкралі ў дзяржавы мільёны даляраў. Яны проста «жулікі». Як ім было ўратавацца? Хоць неяк сваё «ліцо» ўратаваць? Пайсьці ў палітыку, у прэзыдэнты Вось тыя, каторыя сёньня высунуліся, «Пазьняк і іжэ сь нimі», што яны не разумеюць, што гэта «блеф»? Ну, як Пазьняк правядзе выбары, калі па Пазьняку крымінальная справа ўзбуджаная яшчэ тры гады назад і ў сілу гэтага ён зьбег з краіны?

**— Але яго прынялі, як палітычнага бежанца.**

— Ну, прынялі. Гэта справа таго, хто прыняў. Разумееце, мы яго не выганялі з краіны. Ён павінен быў прыйсьці ў пракуратуру й «аб'ясьніцца». Ён зьбег... Іншыя кандыдаты: да 15 мільёнаў «уваломкла» імі. Два месяцы таму назад, яшчэ да гэтых кампаніяў выбарчых, сказаў ім «устамі» прэзыдэнта: «Рабяты, прынясіце дзеньгі, аддайце тое, што укралі, і ідзіце ў прэзідзенты, куда хаціце, дажа на незаконные выбары!» Яны гэтага не зрабілі, не зрабіўшы гэтага, пайшлі ў прэзыдэнты. Не, дарагія мае, аддайце, што вы павінныя дзяржаве і налог. Па закону. (Аляксандар Рыгоравіч, помнячы відавочна, што паспаліты люд прагаласаваў за яго перадусім за непрымірымую барацьбу з «карупцыяй» ва ўладных структурах кабінету Кебіча, працягвае зь змагацца зь ёй, забываючыся на тое, што цяпер галоўныя «карупцыянеры» гэта ён сам ды ягоная шматлікая сьвіта — заўв. рэд.).

Выбары сёньня патрэбныя, як палітычная кампанія й прыкрыцьцё для тых «жулікаў», каторыя калісьці былі пры ўладзе і каторыя «прылічна» укралі ў дзяржавы. Але я яшчэ раз падкрэсьліваю, я ж зь імі па-добраму размаўляў: «Аддайце дзеньгі і рэгістрыруйцесь на кандзідаты ў прэзідзенты! Вот дзеньгі. Вот мы бралі. Вот мы падпісывалі і аддавалі родственьнікам!» Яны гэтага ня робяць. Тады трэба адказваць па закону...

Вы кажыце, што я распраўляюся з апазыцыяй? А на якой падставе арганізуюцца сёньня гэтыя выбары? Вы скажыце: «На аснаваніі старай канстітуцыі да рэферендума.» А я Вам скажу: «Есьлі б ані хацелі жыць па старай канстітуцыі, ім не нада была участвоваць в рэферендуме, каторый ані называюць «лукашэнкаўскім».» Але ж яны, дэпутаты былога Вярхоўнага Савету, вось гэта вось «небальшая, э-э-э, баньдзіцкая, бандгрупа, бандфарміраваніе ў трыццаць сь лішнім чэлавек», яны ж тады ад Вярхоўнага Савету, і нацыяналісты, і камуністы, усе аб'ядналіся («нацыяналістаў» у Вярхоўным Савеце 13-га скліканьня у той час не было — заўв. рэд.) і высунулі свой праект Канстытуцыі. Г. зн. былі дзьве Канстытуцыі на рэферэндуме. Я прасіў 7 лістапада правесьці рэферэндум —Вярхоўны Савет назначыў на 24 лістапада. Значыць, яны яшчэ й дату назначылі рэфэрэндуму! І прайгралі 10 да 1. Ну, што сёньня крычаць? Сёньня позна крычаць. Вы удзельнічалі, вы прайгралі. Таму ёсьць канстытуцыя й трэба дзейнічаць на падставе гэтай канстытуцыі.

*А вось вытрымкі з таго, што Аляксандар Рыгоравіч казаў 7 красавіка, выступаючы з сваім штогодним пасланьнем перад дэпутатамі Народнага Сабраньня:*

— Мы нікаво не гонім в сьледственный ізалятар і нікаму не адзеваем наручнікі, есьлі он не ідзёт туда сам ілі не адзевает іх сам себе.

— Мужыкі! Вярніце то, што укралі! І далі ім счот. Кроме дзецей Багданкевіча, ніхто не стал вазвращаць долг. Це аўтамабілі купленые сталі вазвращчаць. Все астальные спряталісь і пайшлі в паліціку, для таго, чтобы абвініць прэзідзента, што он сь німі сводіт счоты. Не палучыцца. Не палучыцца! Аддайце дзеньгі, патом ідзіце туда, куда вы хаціце. Не аддалі дзенег — атвечайце па закону! Па закону каторый раждзён в эціх сьценах самым дземакрацічным образам.

— Я хачу, чтоб вы зналі, сколька будзет маіх сіл, как бы вы меня не тэрарізіравалі, как бы вы меня не упрекалі, в какіх трусах і штанах я хажу, — вы меня не сламаеце. Я знаю чэго я хачу.

— Што вы нас терзаеце: дзіктатура! Есьлі б зьдзесь не была ўласьці, то заўтра бы мы все превраціліcь в чэрнобыльцаў!

*Падрыхтаваў* **А. М.**

## 8. Гутарка зь Пётрам Явідовічам

*Пётар Явідовіч кіраўнік Ашмянскай раённай маладзёвай арганізацыі «Грамадзянскі форум», якой апякуецца Аб'яднаная грамадзянская партыя. Ён цяпер сябра выбарчай камісіі Ашмянскага раёну. На жыцьцё зарабляе, працуючы гадзіньнікавым майстрам.*

**— Пётра, ты адзін зь нямногіх сёньня ацалелых у Беларусі г. зв. «дробных прадпрыймальнікаў». Як цяпер ім там жывецца ды працуецца?**

— Раней у маёй майстэрні па рамонту гадзіньнікаў працавала 8 асобаў, якія мелі неблагі для Беларусі заробак. Сёньня мы засталіся ўдвох з маёй сястрой, хаця прафэсія нашая даволі цяпер дэфіцытная, бо такой спэцыяльнасьці ў беларускіх дзяржаўных тэхнічных вучэльнях няма. Колькі гадоў таму я пастанавіў навучаць майстроў сам. А гэта нялёгка, бо й сам працуеш, стаіш на прыёмцы, ды адначасна вучыш. Пачаў з таго, што ўзяў на працу празь біржу двух вучняў і зрабіў зь іх добрых майстроў. Але нашая дзяржава ня ўлічвае таго, што навічкоў трэба вучыць, і яна за кожнага працаўладкаванага пачала браць тыя самыя грошы, што й за спэцыяліста. Аднак, калі я набраў шэсьць чалавек дзеля навучаньня (з моладзі, якая ня мела аніякай прафэсіі), напрыканцы 1997 году гарадзкія ўлады стварылі мне такія ўмовы, што мне давялося пакінуць маё «настаўніцтва». Хоць гэтыя юнакі й дзяўчаты, калі б налогавая інспэкцыя не абклала мяне вялікім (для Беларусі) штрафам, маглі б атрымаць у будучыні прафэсію й працоўныя месцы.

**— Што сёньня ў Беларусі патрэбнае для атрыманьня дазволу на заняткі прадпрымальніцтвам?**

— Патрэбны г. зв. «сартыфікат якасьці». Такім чынам, я, маючы дыплём паводле сваёй прафэсіі, павінен яшчэ заплаціць 10-20 мінімальных заробкаў у месяц невядома каму й за што. Само сабой, трэба сплачваць налогі й за арэнду памяшканьня плаціць. Цяпер рыхтуюцца цэньнікі зь фіксаванымі цэнамі на паслугі, як пры сацыялізьме. Гэта, пэўна, і даканае беларускіх прадпрыймальнікаў.

**— Наколькі тваё, рэдкае цяпер у Беларусі становішча дробнага прадпрыймальніка паўплывала на нацыянальную й палітычную сьвядомасьць?**

— На маіх вачах загінула шмат добрых пачынаў у сфэры бізьнесу й хоць якой вытворчасьці гэткіх самых, як я, маладых, актыўных хлопцаў і дзяўчатаў. Мы на сваей скуры адчулі ўвесь «клопат» нашай дзяржаўнай сыстэмы й мэтады ейнага кіраваньня. Наш прэзыдэнт хоча нанова вярнуцца да плянавай эканомікі, што, як даказала й даказвае жыцьцё, нерэальна. Гэта, зразумела, вельмі падштурхнула мяне да заняткаў палітыкай. Як і маіх раней маласьвядомых сяброў.

**— Апошнім часам у Беларусі ўзьнікла шмат разнастайнага палітычнага кірунку маладзёвых рухаў і арганізацыяў. Што ты можаш расказаць пра іх?**

— Найбольш вядомыя сёньня гэта Малады фронт, хросным бацькам якога быў БНФ, і БПСМ, які ў народзе празвалі «лукамолам». БПСМ цяпер вельмі падтрымліваецца рэжымам. Членскі білет БПСМ, напрыклад, дае права «патрыётам» бясплатна наведаваць дыскатэкі, для іх таньнейшыя празьныя білеты. Прыходзілі яны й да мяне, каб заключыць дамову на больш танны для іхніх хаўрусьнікаў рамонт гадзіньнікаў. Лукашэнка з дапамогай дробных, а часам і даволі буйных (кватэры, машыны, офісы) падачак стварае нешта накшталт атрадаў «хунвэйбінаў».

Апроч Маладога фронту ёсьць і наша недзяржаўная, ня менш значная колькасна арганізацыя «Грамадзянскі форум» (старшыня Уладзімір Навасяд), ёсьць Маладая грамада, Лібэральна-дэмакратычны саюз моладзі, нават беларускія «камсамольцы» знаходзяцца сёньня ў апазыцыі да рэжыму. Увогуле, сёньня ў Беларусі больш за дваццаць розных, добра ўжо вядомых апазыцыйных маладзёвых арганізацыяў. Яшчэ больш малазнаных.

Наш «Грамадзянскі форум» падрымлівае ідэі Аб'еднанай грамадзянскай партыі, мае разгалінаваныя структуры ў Беларусі, ня меншыя, пэўна, чым у Маладога фронту.

**— Мне даводзілася чуць, што сёньня толькі БНФ мае ў Беларусі рэальныя структуры на правінцыі, што амаль усе выбарчыя ўчасткі створаныя Фронтам. Што ты скажыш на гэта, як сябра выбаркама ў Ашмянах?**

— Так, найбольш структураваная сёньня партыя гэта БНФ. Але й іншыя партыі маюць свае структуры ў рэгіёнах. Мяркую, што сёньня БАГП, і Грамада йдуць амаль на ўзроўні БНФ... Калі чалавек будуе хату, ён павінен пабудаваць яе на вельмі добрым падмурку. Фронтам створаныя сёньня неблагія сьцены (абласныя гарады), ёсьць нейкі дах (Менск), але ж трывалага падмурку пакуль няма. Бо падмурак — гэта нашыя рэгіёны, якія вельмі яшчэ слабыя. У Менску пачалі займацца выбарамі прэзыдэнта, але перад тым трэба было вельмі добра папрацаваць з рэгіёнамі.

**— А што зь сябе ўяўляе сёньня выбаркам у Ашмянах?**

— Гэта тэрытарыяльная камісія, каторая складаецца з 11 чалавек. Працаваць нам вельмі цяжка. Я памочнік старшыні й мяне ўжо выклікалі ў пракуратуру й папярэджвалі, што калі я ня кіну сваю выбарчую дзейнасьць, мяне прыцягнуць да адказанасьці. Я ў пракуратуры пад ніякімі дакумантамі не падпісваўся. Пракурор сп. Бутрым выклікаў сьведкаў з вуліцы, каб яны падпісаліся.

Увогуле, сёньня й пракуратура й КДБ «працуюць» са студэнтамі нашага сельскагаспадарчага тэхнікуму, бо яны высунулі двух прадстаўнікоў у тэрытарыяльную камісію: іх цяпер за гэта «шманаюць» і псыхалягічна ціснуць. Такі Міноіць, памочнік пракурора, сказаў адной студэнтцы, што калі б былі сталіноўскія часы, зь ёй бы ня так размаўлялі — «пусьцілі б у расход»! Тэлефоны маіх сяброўнезалежнікаў праслухоўваюцца, за намі сочаць, выклікаюць у пракуратуру нават маіх суседзяў. Студэнтам пагражаюць выключэньнем.

**— А як так атрымалася, што з усёй багатай палітычнай палітры апазыцыя вылучала толькі двух кандыдатаў, Чыгіра й Пазьняка, першы зь якіх ужо пад сьледзтвам паводле сфабрыкаванай на яго справы, а другі ня можа нават прыехаць у Беларусь?**

— Наогул, я лічу, што гэта кепска, што Пазьняк не застаўся ў Беларусі. Калі б ён быў у Беларусі, людзі з рэгіёнаў яго больш паважалі б. Я лічу, што ў нас цяпер той не палітык, хто не адседзеў у турме. Палітыкі нашыя павінныя заставацца на радзіме й ісьці за краты за свае погляды, каб іх паважаў народ. Вунь і Ганчар ужо адседзеў сваіх 10 сутак.

Мне здаецца што на сёньняшні дзень у рэгіёнах вельмі падтрымалі б Карпенку, які шмат да нас прыяжджаў, сустракаўся зь людзьмі, глядзеў, як жывуць у кожным рэгіёне*. Але ў АГП вельмі цяжка цяпер зь фінансамі.

**— Каб выбары адбыліся, трэба, каб прагаласавала 50% выбаршчыкаў. Ва ўмовах перасьледу з боку дзяржаўных уладаў мне здаецца гэтае немагчымым.**

— Выбары, я чуў, будуць праходзіць дзесяць дзён. Вельмі важна, каб АБСЭ вылучыла на правядзеньне выбараў аўтобусы абсталяваныя адумысловай кампутарнай тэхнікай: мы б маглі праехаць да самых далёкіх вёсак, а сяляне маглі б прагаласаваць адным дотыкам пальца. Цэнтарвыбаркам паведаміў нам, што гэтае можа адбыцца.

**— А калі Лукашэнка не прапусьціць на беларускую тэрыторыю ні аўтобусы, ні назіральнікаў?**

— Тады ў рэжыма складуцца дужа канфліктныя адносіны з Захадам. А як заходняя дэмакратыя ставіцца да дыктатарскіх рэжымаў вядома сёньня на прыкладзе Югаславіі.

* *Гутарка запісаная напрыканцы сакавіка, калі сьветлай памяці Генадзь Карпенка быў яшчэ жывы —*

**А. М.**

Працяг са старонкі 5

## 9. На Беларусі сьпее здрада

*На Беларусі сьпее здрада,*
*Выношвае ганебны плён,*
*А тыя, што ўхапілі ўладу,*
*Гатовы здаць нас у палон.*

*Здаць у палон Краіну-Маці,*
*За трыццаць срэбнікаў прадаць,*
*Абы на трызьне, як на сьвяце,*
*Сабе на ўцеху баляваць.*

*Але мы не забылі болю*
*Двухсотгадовага ярма,*
*Народ, што зьведаў прысмак волі,*
*Зноў пад ярмо? О, не — дарма!*

*Наперад рвуцца нашы коні,*
*Хоць вораг выставіў заслон,*
*І пошчак слаўнае Пагоні*
*Гучыць, нібы набату звон.*

*Ён б'е мячамі нам у грудзі:*
*— Ці ж вы чужынцы, ці ў гасьцях?*
*Смялей, смялей ставайце, людзі,*
*Пад бел-чырвона-белы сьцяг!*

*І будзе сам сабе ня рады*
*Той, хто рыхтуе нам пало:*
*Няхай капае яму здрада*
*На ўласны скон, на ўласны скон!*

**Артур Вольскі**

рэць у агні, а іхнія маці моўчкі выціраць сьлёзы. Вельмі шкада, калі да іх дададуцца й сьлёзы беларускіх матуляў.

Дыктары расейскага тэлебачаньня тлумачаць выміраньне народаў Поўначы, Далёкага Ўсходу гістарычным працэсам (чамусьці ён ідзе толькі ў Расеі). У той самы час вялікімі багацьцямі этнічных земляў гэтых народаў літасьціва кіруе, распараджаецца й на гэтым тлусьцее Масква — праз сетку газпромаў, лукойлаў, бірсаў ды інш. Што ж аб'ядноўвае гэтыя на першы погляд разрозьненыя факты, якія можна пералічваць дзясяткамі, у адно цэлае?

Апошнім дзесяцігодзьдзем самым модным, самым распаўсюджаным словам у палітыкаў стала слова «сэпаратызм». Ім палітыкі пужаюць адно аднога, страшаць свае народы наступствамі гэтага працэсу, бачаць у ім усе трагедыі нашай цывілізацыі ды вядуць зь ім барацьбу ўсімі сродкамі, уключаючы й зброю.

У сапраўднасьці, ідзе апошняя стадыя дэкалянізацыі народаў ва ўсіх кутках нашае плянэты. Нашая тэхналягічная цывілізацыя знаходзіцца ў глябальным сыстэмным крызісе. Калі чалавецтва ня здолее ў бліжэйшыя дзесяцігодзьдзі перайсьці на вы шавінізм. Ёй і ў галаву не прыйшло, што гэта абразіла дзясяткі нацыяў і народаў Расеі. У ейнай сьвядомасьці не зьмяшчаецца, што хтосьці ня хоча быць рускім.

Адстаўны палкоўнік, расеец, у Менску з пачуцьцём перавагі даказвае беларусу, што беларусы — ня нацыя, што яны самі адмовіліся ад сваёй мовы, што ўсе, якія ёсьць дасягненьні ў навуцы, тэхніцы, зробленыя рускімі, што дзякуючы рускім, якія захапілі, ці то вызвалілі Беларусь, беларусы здолелі чагосьці дасягнуць, што нават на сьвяткаваньні 930-годзьдзя Менску для пачатку канцэрту беларусы не змаглі прапанаваць што-колечы нацыянальнае й распачалі сьвята рускай песьняй «Москва, звенят колокола»...

І гэтак гаворыцца па ўсёй Русі Вялікай: Кучум — злы й падступны хан свайго народу, а Ярмак — высакародны «пакарыцель» Сыбіры ў імя росквіту карэнных жыхароў пасьля засваеньня імі вялікай рускай культуры.

Вось дзе крыецца адказ на пытаньне, чаму ніхто ня любіць рускіх! Як рускія ставяцца да іншых народаў, гэтак ставяцца й да іх. Гэта закон прыроды. Супрацьдзеяньне заўжды роўнае дзеяньню. Вялікай рускай міляцыі (дэнацыяналізацыя захопленых народаў), ідэалягічнае апраўданьне сваіх дзеяньняў («зьбіраньне спакон рускіх земляў», «гістарычнае ўзьяднаньненародаў», «брацкая дапамога», «абарона малых народаў», «стратэгічныя інтарэсы Расеі» ды г. д. — поўны шавіністычны набор мацнейшай і агрэсыўнай нацыі).

Напрыклад, пасьля гвалтоўнага падзелу Рэчы Паспалітай Беларусь складала ў 1811 годзе 10% імпэрыі, а беларусы — 15% расейскай арміі (г. зн. у войска зь Беларусі бралі ў два разы больш людзей, чымсь зь іншых губэрніяў Расеі й такім чынам мэтанакіравана аслаблялі беларускую нацыю. Часопіс «Вестник» у 1862 годзе даходліва растлумачыў сэнс асыміляцыі, ейны шавіністычны характар: «нести образование в народ только путём великорусской культуры». Для імпэрскай эліты Расеі каля 150 нацыяў і народаў імпэрыі (строга паводле Канта) — адзін народ: «И гордый внук славян, и финн, и ныне дикий тунгус, и друг степей калмык» і іншыя, і іншыя. І ўсе яны павінныя адукоўвацца «путём великорусской культуры».

Аднак, разбураючы дзясяткі й дзясяткі нацыяў і народаў, непрыкметна, але бесперапынна разбураецца,

## З АБШАРАЎ ВКЛ

Працяг са старонкі 1

■ *Літоўская грамадзкасьць абуранае новым амбасадарам Аўстраліі, каторы не хавае сваіх гомасэксуальных схільнасьцяў і замест жонкі, як гэта прынятае, прадставіў Прэзыдэнту Адамкусу свайго палавога партнёра.*

■ *14 красавіка з нагоды адкрыцьця выставыф, прысьвечанай Грунвальдзкай бітве, дзе экспануецца славутае палатно Яна Матэйкі з аднайменнай назвай, у Вільню прыбыў з афіцыйным візітам Прэзыдэнт Польшчы А. Квасьнеўскі. У літоўскіх СМІ падчас рэклямнае кампаніі, што разгарнулася вакол гэтае выставы, пра ўдзел беларусаў у слыннай бітве не згадвалася.*

■ *Крымінальная сытуацыя ў Літве застаецца напружанай. 10 красавіка ў Вільні быў знойдзены спалены аўтамабіль, а ў ягоным багажніку — абгарэлы труп. 11 красавіка на сьметніку бліз Вісагінасу знойдзеная чалавечая галава.*

■ *Літоўскія ўлады па-ранейшаму не дазваляюць распачаць працу прыватнай радыёстанцыі «Балтыцкія хвалі», каторая мелася працаваць у дыяпазоне кароткіх хваляў на рускай і беларускай мове.*

*Падрыхтаваў* **Алег Аблажэй**

# БЕЛАРУСЬ НАПЯРЭДАДНІ ПРЭЗЫДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ

## 10. Славянскі антыславянізм

Канадзкі ўрад ужо чвэрць стагодзьдзя вядзе перамовы з плямёнамі карэнных жыхароў і паступова прыйшоў да высновы аб неабходнасьці вяртаньня ім спаконвечных земляў, наданьні ім самакіраваньня ды ўтварэньня ўраду незалежна ад колькаснага складу народнасьцяў.

Каралева Вялікабрытаніі абавязала ўзаконіць парляманты Шатляндыі і Ўэльса.

Францыя й Англія прымаюць законы аб абароне сваіх нацыянальных культураў (перадусім — мовы).

Расея ды Ўкраіна спрачаюцца аб Крыме, аднак гэта ўжо землі крымскіх татараў, спракаветная зямля іхніх продкаў.

Рэгіён Косава аддзяляецца ад Сэрбіі, і гэты працэс нельга спыніць, нягледзячы на тое, што Косава было некалі этнічна сэрбскай тэрыторыяй, але сербаў там (да пачатку цяперашняга этнічнай «зачысткі тэрыторыі») было толькі каля 10%. Свае сьвятыні трэба берагчы, а не засяляць іншымі народамі ды кіравацца ў сваіх дзеяньнях прынцыпам пралетарскага інтэрнацыяналізму. Новая папуляцыя альбанцаў у Косаве заменіць ідэалёгію пралетарскага інтэрнацыяналізму на іншую, больш ёй адпаведную, але зямлю сэрбам не аддасьць.

Расея зрабіла крывавую бойнюў Чачні, бо лічыць генацыд малых народаў сваёй унутранай справай, аднак, з упартасьцю вартай лепшага выкарыстаньня, крычыць аб прыцясьненьні рускамоўных у Латвіі. Прынамсі, кожнага латыша можна лічыць рускамоўным.

Вось-вось Дагестан паўторыць Чачню, і зноў рускія хлопцы будуць га-

новы ўзровень стасункаў чалавека з прыродай, чалавека з чалавекам, —цывілізацыя асуджаная на зьнікненьне. І дзеля вырашэньня гэтае праблемы чалавецтва мае адну магчымасьць: выкарыстаць у поўным аб'ёме незьлічоныя багацьці асобных нацыяў, народаў, накопленыя імі на працягу шматвяковага пражываньня на сваіх этнічных тэрыторыях у канкрэтным геаграфічным асяродзьдзі, — народаў, каторыя, дзякуючы гэтаму, дасягнулі максымальнай гармоніі з прыродай. Ключом для атрыманьня гэтых багацьцяў зьяўляецца поўная дэкалянізацыя ўсіх народаў, іхняе вольнае разьвіцьцё.

Але гэта страшна для дэнацыяналізаваных людзей (папуляцыі Шарыкавых) — істотаў маргінальных і нават амаральных, ахвяраў нацыянальнай кастрацыі, а таксама для імпэрскіх палітычных элітаў зь іхнім шавіністычным ідэалягічным багажом сваёй надзвычайнай каштоўнасьці для цывілізацыі. Свае амбіцыі яны ставяць вышэй глябальных праблемаў, каторыя ўзьніклі сёньня перад нашай цывілізацыяй.

Асабліва востра гэтае пытаньне стаіць у Расеі.

**1. Чаму ніхто ня любіць рускіх?**

Чароўная Маша Распуціна й вядучы праграмы «Час пік» абмяркоўваюць сапраўды карэннае для рускай нацыі пытаньне «Чаму ніхто ня любіць рускіх?» Дарэчы, чаму?

Адказы Машы й вядучага праграмы, маўляў, таму што мы самі сябе ня любім, таму што нас многа, — не зьяўляюцца пераканаўчымі.

Цудоўная руская сьпявачка, прыгожая жанчына Кацярына Шаўрына, якая прымала ўдзел у перадачы «Рынг», амаль адказала на першае пытаньне адным сказам: «Ня мае значэньня, якой мы нацыі — мы ўсе рускія.» Такі вось бясхітрасны быта-

нацыі гэта даўно ўжо трэба было б уцяміць.

Але адкуль жа ў рускай нацыі такая зьнявага да іншых народаў? Яна ж сама ў цяперашні час вартая жалю, спачуваньня й дапамогі. Адказаўшы на гэтае пытаньне, паважаная Маша, аўтаматычна атрымаем адказ, чаму «новыя рускія» (г. зн. «сытыя» згодна Вашай тэрміналёгіі) такія абыякавыя да рускага пралетар'яту.

Імануіл Кант у трактаце «Да вечнага міру» аб саюзе народаў сказаў: «Гэта быў бы саюз народаў, які, аднак жа, не павінен быць дзяржавай народаў. Апошняе азначала б супярэчнасьць, бо кожная дзяржава ўтрымлівае ў сябе адносіны вышэйшага (заканатворцы) да ніжэйшага (падпарадкаванага, г. зн. народу). Многія народы ў дзяржаве ўтварылі б толькі адзін народ, што супярэчыць прадумове.» Інакш кажучы, ня можа быць раўнапраўнага саюзу народаў у адной дзяржаве. Аб гэтым няўмольна сьведчыць уся гісторыя разьвіцьця. Заўжды ў шматнацыянальных дзяржавах прысутнічала тытульная нацыя, як правіла, наймацнейшая, якая брала на сябе ролю вядучай, аб'яднаўчай. Так узьнікалі імпэрыі. Імпэрыі распадаліся, як толькі тытульная нацыя ў барацьбе за сваё вяршэнства й пanаваньне расходавала сваю энэргію. Наглядным прыкладам можа служыць распад у гэтым стагодзьдзі Аўстра-Вэнгерскай імпэрыі, апошні асколак якой спыніў сваё йснаваньне ў 1991 годзе цывілізаваным утварэньнем дзьвюх незалежных краінаў — Чэхіі ды Славакіі.

Расейская імпэрыя стваралася паводле тых самых канонаў, што й іншыя імпэрыі. Руская нацыя выступілв тытульнай нацыяй у ейным утварэньні. Дзеля гэтае місіі яна выкарыстоўвала такія самыя сродкі, як і пры ўтварэньні іншых імпэрыяў: войска (для захопу і ўтрыманьня чужых тэрыторыяў), палітыку асы-

слабее й сама тытульная руская нацыя — законы прыроды няўмольныя. Менавіта аслабленьне рускай нацыі, ейная дэнацыяналізацыя й сталіся прычынай кастрычніцкага перавароту. Камуністы максымальна выкарысталі працэсы дэнацыяналізацыі ў Расейскай імпэрыі, каб замяніць пануючую клясу ўласьнікаў на пануючую клясу чыноўнікаў з папуляцыі Шарыкавых (люмпэнаў). Усе нацыі й народы Расейскай імпэрыі ў часе Грамадзянскай вайны ўдосталь папрацавалі ў самазьнішчэньні, але пальма самазьнішчэньня, бясспрэчна, належыць рускай нацыі. Руская нацыя з сваім размытым нацыянальным усьведамленьнем ды шавіністычным выхаваньнем сталася ідэальнаю глебаю, на якой расьцьвіў пралетарскі інтэрнацыяналізм. Пад гукі «Інтэрнацыянала» яна з натхненьнем зьнішчала, выганяла з Расеі свае саслоўі ўласьнікаў, інтэлегенцыю й бескарысна выконвала свой «інтэрнацыянальны абавязак», не зважаючы на страты, дапамагала гэта рабіць іншым нацыям і народам на бяскрайніх прасторах былой Расейскай імпэрыі. Палітычная сыстэма, каторую запрапанавалі камуністы, пры якой «кожны мае права на чужую ўласнасьць», — сталася вельмі прывабнай і зразумелай «люмпенам» папуляцыі Шарыкавых. Навошта, сапраўды, «сушыць мозгі» й разьбірацца ў сутнасьці тэхналягічнай цывілізацыі? Цяжка, зьняважальна для некампэтэнтнага «люмпэнскага» самалюбства прызнаць аб'ектыўны факт, што дабрабыт пралетар'яту наўпрост залежыць ад эфэктоўнай працы капіталу. Эфэктоўна ж кіраваць капіталам можа толькі ўласьнік ва ўмовах антыманапольнага заканадаўства. Зьнішчэньне ўласьнікаў ды чыноўнікаў пралетар'яту нічога, акрамя шкоды, пагаршэньня дабрабыту не дало. Функцыі пралетар'яту, уласьніка й чыноўніка ня зьніклі са зьнішчэньнем двух апошніх. Замест зьнішчаных саслоўяў з пралетарскага асяродзьдзя вырасла новая пануючая кляса — кляса камуначыноўнікаў, каторая прысвоіла сабе іхнія функцыі. Вось калі пралетар'ят Расеі патрапіў у сапраўднае, дабраахвотнае й найжахлівейшае рабства. Ён патрапіў у цалкавітую залежнасьць ад камуначыноўнікаў, каторыя самыя абсалютна не залежылі ад пралетар'яту, хоць і прыкрывалі сваё панаваньне словаблудзтвам кшталту «дыктатура пралетар"яту».

Крыніцай для дабрабыту рабаўладальніка зьяўляецца раб, для ўласьніка — капітал. Самы жорсткі рабаўладальнік павінен клапаціцца аб сваім рабе, а ўласьнік заўжды скіраваны на эфэктоўнае кіраваньне капіталам (і такім чынам павінен клапаціцца аб пралетар'яце). Дабрабыт чыноўнікаў максымальна залежыць ад узроўню ягонага ўдзелу ў размяркаваньні сярод грамадзтва выробленага прадукту, і таму яны цалкам залежаць ад дабразычлівасьць начальства. У выніку, кожнага чыноўніка хвалюе перадусім ягоная здольнасьць дагаджаць начальству, быць заўжды ў яго «на вачах», быць адданым і патрэбным яму. Клопаты пра вытворчасьць, пра пралетар'ят вялікай карысьці камуначыноўніку не прыносяць, і таму яго мала турбуе стан вытворчасьці і ўзровень жыцьця пралетар'яту.

Новая пануючая кляса цудоўна разумела, што яна ня здольная канкураваць з уласьнікамі ў эфэктоўнасьці кіраваць капіталам. І таму ўласьнікі былі й ёсьць самай вялікай небясьпекай для панаваньня камуна-чынавецтва, і яны насамперш зьнішчаліся ўсялякімі сродкамі. Гэтую ісьціну павінны сёньня зразумець пралетар'ят былога СССР. Толькі тады ён зразумее, што на працягу звыш 80 гадоў ён уласнымі рукамі пагаршаў сваё становішча, узмацняючы паразітуючае панаваньне савецкага чынавецтва.

*Сустаршыня БРП, к.т.н.*
**Валеры Арцішэўскі.**

# Нататкі аўстралійца

* Якая роля кожнага прэзыдэнта? Гэта перадусім адбудоўваць свой край, першай асобай якога ён ёсьць, дбаць пра ягонае разьвіцьцё, як нацыянальнае, гэтак і эканамічнае. А беларускі прэзыдэнт дабраахвотна выйшаў на пазыцыю ЛІКВІДАТАРА.

* У цяперашняй хвіліне няважна, ці Лукашэнка ёсьць беларус, ці расеец — важна, што ён робіць. І Лукашэнку і ўсіх непрыхільнікаў беларускае справы, якіх бы поглядаў яны не прытрымліваліся й якога б калёру не былі іхнія сьцягі, трэба было ад самага пачатку адкінуць прэч ад дзяржаўных справаў.

* Ня так даўно ў Аўстраліі мы мелі нагоду аглядаць у ТВ спатканьне Лукашэнкі зь сьпікерам Расейскай думы Селязьнёвым. Лукашэнка жалосным голасам сказаў яму прыблізна наступнае: «Я самы лучшы патрыёт Расіі. Нігдзе ў мірэ не найдзёце вы такога другога, чтобы так любіў Расію, как я!» Што ж, Лукашэнка мае права любіць Расею, і мае права ў кожную хвіліну пакінуць Беларусь і выехаць у горача любімую ім краіну. Гэта было б патрэбна для ўстабілізацыі нармальных адносінаў як у Беларусі, гэтак і ў самой Расеі.

* Мы, аўстралійскія беларусы, не прызнаём ніякіх саюзаў і ніякіх канфэдэрацыяў, бо ня хочым застацца бяз Бацькаўшчыны й быць племенем цыганскім, бяз дому й нацыянальнасьці.

* На старонках «The new Encyclopedia Britanica» вельмі хвалебна напісана пра нашую старажытную беларускую дзяржаву ВКЛ у дачыненьні ейнай вайсковасьці, гаспадарчых і культурных справаў. Наш народ, які складаў 80% жыхарства княства, удакумантаваў сваю адвагу й вайсковыя здольнасьці. Чым болей заглыбляесься ў гісторыю з расіянамі, тым больш сустракаеш праўдзівых фактаў былых узаемных крывавых войнаў.

* Ужо неўзабаве скончыцца кадэнцыя А. Лукашэнкі, як прэзыдэнта РБ. Трэба, каб выбары праходзілі пад кантроляй міжнародных назіральнікаў, АБСЭ ці ААН. Тады ў апазыцыі ёсьць шанец тыя выбары выйграць. Галоўнае тут не дапусьціць выбараў у савецкім стылі. Я, будучы ў Народнай Польшчы, таксама браў удзел у выбарах. Амаль да самага канца выбары праходзілі нармальна. Аднак пры падліку галасоў дзьверы й вокны былі зараз жа зачыненыя. Ад задніх дзьвярэй усунуліся камуністычныя агенты й сказалі, каб мы пакінулі памешканьне выбаркама: «Выбары закончаныя, людзі задаволеныя, што прагаласавалі, і конча!» І патлумачылі: «Мы ня можам аддаць нашае ўлады буржуазіі, ня дзеля гэтага была ленінская рэвалюцыя!» А калі я, як сябра камісіі, запярэчыў, мяне арыштавалі... Не хачу ўспамінаць майго страху, які прайшоў як мароз па скуры, перад мучэньнямі ў камуністычных турмах. Але неяк выкруціўся.

* Лукашэнка прадае Беларусь, як на базары. Зьяжджаюцца ў Менск маскоўскія купцы розных гатункаў, і беларускі прэзыдэнт дабіваецца для сябе выгаднай і карыснай палітычнай (не гандлёвай!) транзакцыі. І ніхто з удзельнікаў ганебнага торгу не зважае ўвагі на беларускі народ, які толькі й ёсьць гаспадар на сваёй зямлі.

* Гандаль Беларусьсю йдзе пакуль што беспакарана, аднак толькі да часу, бо канчатковую стадыю гэтай авантуры разьвяжа разгневаны беларускі народ. Гэта будзе форма рэваншу за зганеную нацыянальную годнасьць і ў такіх самых памерах, як і зробленая крыўда.

* Беларусы павінныя зразумець, што калі нефартунны край траціць сваю нацыянальную й тэрытарыяльную незалежнасьць, ён адначасна страчвае і ўсе міжнародныя атрыбуты прывілеяў і пашану з боку міжнароднай супольнасьці. У такім выпадку тэрыторыя краю паводле закону-права набывае разуменьне правінцыі іншага краю, а ягоныя грамадзяне робяцца чужынцамі ва ўласным доме. Ім ва ўласнай краіне ня будзе ніякага даверу ад каляніялістаў. Ужо сёньня ў Беларусі пераважна ўсе лепшыя дзяржаўныя становішчы абсаджаны расіянамі.

* Апошнім часам расейскі ўрад мае праблемы ў атрыманьні заходніх крэдытаў. У гэтым, мусіць, ёсьць і беларуская доля змаганьня, бо толькі Масква падтрымлівае Лукашэнку ў справе ліквідацыі незалежнасьці Беларусі.

* БССР-аўскі штандар, які прычэплівае беларускі прэзыдэнт да свайго самаходу, ня робіць аніякага энтузіязму ў беларусаў, таму што ён нагадвае часы рэпрэсіяў цэлай савецкай сыстэмы й ахвяры Курапатаў ды іншых месцаў масавых забойстваў. Лукашэнкаўскі штандар — сымбаль няволі нашага народу.

* Трэба памятаць, што кожная, нават упадаючая, імпэрыя мае сваіх прыхільнікаў. Так было з гішпанскаю й францускаю імпэрыямі. Гэтаксама было й з Трэйцім рэйхам Гітлера. Маем тое самае цяпер і з Савецкай імпэрыяй... На Захадзе час ад часу пішуць легенды пра гітлераўскіх фанатыкаў, каторыя пасьля вайны аселі ў парагвайскіх джунглях і пабудавалі там сабе паселішчы. Яны чакаюць, што прыйдзе іхні час і зноў на цэлым сьвеце запануе іхняя ідэя.

* У дзеяньнях гісторыі былі мацнейшыя рэжымы, як цяперашні рэжым у Беларусі, ды разьляцеліся. Разьляціцца й гэты.

*Працяг будзе*

**Ян Барысевіч**

# УСТАНОЎЧЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ У РАСЕІ

адбыўся 27 сакавіка, дзякуючы ініцыятыве Маскоўскага таварыства беларускай культуры й Беларускага грамадзка-культурнага таварыства ў Пецярбурзе. Зьезд гэты праходзіў у памяшканьні Дома Літаратараў у Маскве. На ім быў разгледжаны статут Міжрэгіянальнага аб'яднаньня беларусаў Расеі, галоўнымі задачамі якога зьяўляецца захаваньне нацыянальнай культуры й мовы беларусаў у Расейскай Фэдэрацыі, спрыяньне захаваньню дзяржаўнасьці ў Беларусі, разьвіцьцё беларускае адукацыі, навуковых досьледаў, народнай творчасьці, мастацтва беларускай дыяспары ў Расеі, супрацьдзеяньне праявам шавінізму, расізму, камуна-фашызму. Апрача прадстаўнікоў зь беларускіх арганізацыяў Масквы, Пецярбургу, Краснаярску, Іркуцку ў зьезьдзе ўзялі ўдзел дэпутаты ВС 13-га скліканьня сп. С. Шушкевіч і сп. С. Домаш. Зьезд абраў Раду аб'яднаньня на чале з Генадзем Лехам. Робячы ўсё, каб не даць беларусам Расеі кансалідавацца вакол ідэі незалежнасьці Бацькаўшчыны, амбасада РБ у Расеі правяла 4 красавіка свой «зьезд» у апартамэнтах амбасады.

**Валянцін Грыцкевіч**
*Пецярбург*

**PS. Разам з гэтым допісам сп. В. Грыцкевіч даслаў свой зьездаўскі даклад, вытрымкі зь якога чытайце ў наступным нумары.**





***Увага — конкурс!***

## Карыкатура супраць дыктатуры

Газэта «Рунь» супольна зь Беларускай Асацыяцыяй ~~Журналістаў абвяшчае конкурс~~ беларускай палітычнай сатыры з гэтакай назвай. Пераможцаў чакаюць узнагароды. Лепшыя карыкатуры будуць апублікаваныя ў адумысловым альбоме.

**Умовы конкурса:**

*— кожны аўтар мусіць даслаць ня больш трох твораў на пададзеныя ніжэй адрасы;*

*— можна дасылаць творы як апублікаваныя, гэтак і тыя, каторыя яшчэ не публікаваліся;*

*— творы не рэцэнзуюцца й аўтарам не вяртаюцца;*

*— апошні тэрмін падачы твораў — 30 ТРАЎНЯ.*

**Адрасы:**

* **«Рунь», 2001 Vilnius, a/d 1021, Lithuania.**

* **220030 Менск, пл. Свабоды 17-304, Юрасю Карманаву.**

Сымон Шаўцоў

# Swagman

Як мы ўжо паведамлялі, неўзабаве ў сьвет выйдзе кніга аўстралійскага беларуса Сымона Шаўцова «Мая адысея». Сярод вершаваных твораў там ёсьць цудоўная паэмка «Swagman» з унікальным аўстралійскім калярытам. На нашую просьбу патлумачыць, хто такі аўстралійскі swagman, сп. С. Шаўцоў прыслаў ліст:

«Калі вам даводзілася слухаць сьпеў хору Чырвонай Арміі Аляксандрава, дык ён сьпявае папулярную аўстралійскую песьню «Волцынг Матыльда», дзе ўпамінаецца пра «свагмана». Гэта ня «гіпі»! У канцы 1890-ых гадоў Аўстралію ахапіў павальны эканамічны крызыс — стагнацыя на доўгі час. На кантыненьце зьявіліся мільёны беспрацоўных. У Аўстраліі запанаваў «матрыярхат»: жанчына стала галавою сям'і. Ходзіць пра тое, што на адну аўстралійскую жанчыну ў той цяжкі час прыпадала 2,5 мужчыны. Жанчына сама выбірала сабе мужа, панавала над ім. Муж быў рабом жонкі, а жонка каралевай-рабаўладальніцай. Муж мусіў працаваць і ўвесь заробак аддаваў жонцы, якая яму выдзяляла на цыгарэты й на піва як найменш ягонаму патрабаваньню. Абавязак мужа быў варыць на кухні, прыбіраць у хаце, даіць карову (калі такая мелася), купаць дзяцей, мыць бялізну ды вывешваць сушыцца жончыны падштанікі. Жонка малявала свае кіпцюркі ды штодня хадзіла да цырулькі «кучаравіць» сваю прычоску...

Сацыяльнай дапамогі беспрацоўным не было. Беспрацоўныя (найперш халасьцякі) разыйшліся ў пошуках работы па ўсёй Аўстраліі. Хадзілі яны пехатою, узяўшы ў мяшок толькі неабходныя для сябе рэчы. Ад горада да горада, ад пасяленьня да пасяленьня, ад фэрмэра да фэрмэра блукалі яны, шукаючы хоць якога занятку, — гэта й былі «свагманы».

Легенда перадае, што адзін з гэтых «свагманаў», галодны, прысеў аднойчы каля рэчкі, на беразе якой пасьвілася вялікая атара авечак. Адзін баранчык падыйшоў надта блізка да «свагмана» і той пад уплывам голаду схапіў яго й зарэзаў. Фэрмар убачыў гэта й прывёў паліцыю. «Свагман», баючыся арышту, кінуўся ў рэчку, але цяжкая «амуніцыя» пацягнула яго на дно й ён утапіўся. Вось, кажуць, дух гэтага тапельца й перасяліўся ў іншых «свагманаў» і яны ад той пары заракліся пасягаць на чужое дабро.

У наш час рэдка дзе ўбачыш «свагмана». За 50 гадоў у Аўстра-ліі я бачыў толькі аднаго ў 1949 годзе, калі толькі прыехаў сюды на сталае жыхарства. Тады насельніцтва краіны налічвала 5,5 млн. чалавек, а цяпер у нас жыве 18,8 млн. Прырост адбыўся за кошт эмігрантаў з Эўропы, Азіі ды іншых кантынентаў. Колькасьць мужчынаў і жанчынаў ураўнялася — за кошт прытоку прыгожых дзяўчатаў зь Філіпінаў, Тайлянду, Камбоджы ды арабскіх краінаў. Значна зьменшылася колькасьць халасьцякоў, «каралевы-рабаўласьніцы» страцілі сваё панаваньне. Яны праклінаюць прыежджых жанчынаў, каторыя прывезьлі ў Аўстралію «дурныя й шкодныя звычаі»: варыць абед, праць бялізну, гадаваць дзяцей, працаваць у хаце ды яшчэ на фабрыцы...

Аўстралійскія хлопцы ахвотна жэняцца на прыежджых. Дый сем'і эмігрантаў таксама найбольш шлюбуюцца між сабою. У аднаго беларуса два сыны жанатыя на грачанках. Беларускі замужам за палякамі, італьянцамі ды іншымі перасяленцамі з Эўропы. Многія жывуць «напавер», пакуль ня зьявіцца дзіця. Шлюб абавязкова цывільны. Рэлігія, нават каталіцкая, ня можа перашкодзіць канфэсійна-мешаным шлюбам. Мусульманкі праз іхнюю адданасьць мужу вельмі папулярныя сярод жаніхоў.

Гэткім чынам халасьцякоў паняволі ў Аўстраліі амаль не засталося. Зьмяніўся й нацыянальны склад краіны: англасаксонцы цяпер у меншасьці. Да таго ж прыбывае да нас шмат «нелегалаў», каторыя ноччу патаемна высаджваюцца на аўстралійскую зямлю (пераважна азіяты). Аднак зь невядомых прычынаў у Аўстраліі хлопчыкаў нараджаецца больш, чым дзяўчынак. Лічыцца вялікім шчасьцем, калі ў сям'і ёсьць хоць адна дзяўчынка!

У Аўстраліі мала беспрацоўных, дый беспрацоўныя атрымліваюць добрыя грошы. У нас работа шукае рабочага, а не рабочы работы: беспрацоўны бярэ працу, калі яна выгадная ды адпавядае ягонаму густу й жаданьню... Зусім зьніклі ўмовы, што нарадзілі «свагмана».



16 ТРАЎНЯ — ВЫБАРЫ ПРЭЗЫДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ!

Здымак Генадзя Жынкова

СЯРЖУК ВІТУШКА

## Мой погляд на вайну ў Югаславіі

Мне так здаецца — сьвет ашалеў.

Калісьці за савецкім часам мы з зайздрасьцю паглядалі на Югаславію. Гаспадарка ды міжнацыянальныя адносіны ў гэтай краіне былі для нас узорам. Паехаць туды ў госьці было гэтаксама цяжка, як і ў капіталістычную краіну. І вось табе маеш: этнічныя чысткі, руіны пасьля бамбёжак, тысячы бежанцаў...

На Вялікдзень сьветары Хрыстом-Богам заклікалі: «Спыніцеся!» Дзе там. Такіх цнотаў, як пакаяньне й прабачэньне няма ў сэрцах палітыкаў. Там пакуль гардыня...

Найбольш пацярпелымі (можа таму, што найбольш вінаватыя) выглядаюць альбанцы-касавары. Так, іх пазбавілі аўтаноміі, пакрыўдзілі. Усе дзяржаўныя ўстановы абсадзілі сэрбамі. Але ж прыватнай уласнасьці ў Югаславіі не забаранілі. Увесь прыватны сэктар у Косаве быў у руках альбанцаў. Можна было папрасіць у Захада трохі грошай (хапіла б, напэўна 1% ад той сумы, каторая сёньня трацiцца на вайну), каб адчыніць прыватныя школы, газэты. Урэшце, кожнаму альбанцу пашыць нацыянальны касьцюм і не баяцца за страту нацыянальнай самабытнасьці, бо палітычная аўтаномія ня ёсьць гарант нацыянальнай самабытнасьці.

Беларусы таксама няхай ня думаюць, што пры дзяржаўнай незалежнасьці аўтаматычна адродзіцца нацыя...

Сьвет звар'яцеў. Але што я магу зрабіць, каб спыніць гэтае вар'яцтва? Магу наводзіць парадак у сваім доме, каб хоць праз гэта трохі зьменшыць сусьветны хаос.



### Умовы падпіскі

Як мы ўжо паведамлялі чытачам далёкага замежжа, да нас з найменшымі стратамі даходзяць імянныя чэкі. Дасылайце іх сакратару газэты Паўлу Саўчанку **(Pavel Savcenko)**. Кошт падпіскі на год — **20$**.

Жыхары Літвы могуць падпісацца ў памешканьні рэдакцыі або ў кожным аддзяленьні сувязі. Падпісны індэкс газэты — **0187**. Кошт падпіскі на год — **12 Lt.**

Падпішчыкам у Беларусі паведамляем адрас у Гродна:

*230023 Гродна-23, п/с 194, Дануце Бічэль-Загнетавай.* Кошт падпіскі на год -- сума ў беларускіх рублях эквівалентная **3$** (паводле камэрцыйнага курсу).

Падпішчыкам у Расеі паведамляем адрас у Санкт-Пецярбурзе:

*191028 Санкт-Петербург, ул. Сикейроса 6-1-364, Ковалюк Евгении Трафимовне.* Кошт падпіскі на год — сума ў расейскіх рублях эквівалентная **5$** (паводле камэрцыйнага курсу).

Падпішчыкам у Польшчы паведамляем адрас у Беластоку:

*Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «а», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год — сума ў злотых эквівалентная ***8$***.

*Адрас для допісаў:*
***«Рунь»***
***2001 Vilnius***
***a/d 1021***
***Lithuania***

Ахвяраваньні на газэту:

| | |
|---|---|
| *Я. Барысевіч з Аўстраліі* | *20 аўс. д.* |
| *В. Кажан з Амэрыкі* | *$ 20+20* |

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў

РУНЬ газэта беларусаў Літвы
выходзіць адзін раз на месяц
заснавальнік
**Таварыства Беларускай Культуры ў Літве**
выдаўцы
**Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя дзеля Беларусі»**
**Таварыства Беларускай Культуры ў Літве**
адрас рэдакцыі
**2001 Vilnius, *Žygimantų* 12-3**
тэлефоны **42 38 02, 61 65 32**
друк **АТ «Спаўда»**
замова ___
наклад **1000** асобнікаў
Сябры рэдакцыі
**Алег Мінкін** - рэдактар
**Павал Саўчанка** - сакратар
**Алег Аблажэй** - мастацкі рэдактар
**Сяргей Вітушка** - гісторыя й этнаграфія
**Андрэй Цярэньцеў** - рэклама й інфармацыя